*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 27(361)** **15 ЛІПЕНЯ 1998 г.**

## ПРЭЗІДЭНТУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ СПАДАРУ ЛУКАШЭНКУ А.Г.

**Шаноўны Аляксандр Рыгоравіч !!!**

Вашы адносіны да беларускай мовы нам добра вядомы. І ніхто б не звярнуў асаблівай увагі на іх, калі б Вы былі проста грамадзянінам. Але ж Вы — кіраўнік краіны, які імкнецца рашуча ўплываць на яе будучае, на лёс усяго беларускага народа. Таму гэтыя негатыўнасці далі адпаведныя адмоўныя вынікі: за час Вашага прэзідэнцтва наша мова ўжо апынулася на смяротнай пласе. Пацверджанне таму — хуткае скарачэнне беларускамоўных школ і класаў. Асабліва пагражальнае становішча ў гэтых адносінах маюць нашы вядучыя гарады- флагманы руxaў грамадства. Так, калі ў 1993-1994 навучальным годзе 58,6% першакласнікаў Менска прыйшлі ў беларускамоўныя класы, дык у гэтым годзе — толькі 7,3%. У 10 і 11-х класах школ сталіцы на беларускай мове вучацца адпаведна 74 і 33 вучні. Адзначанае склалася ў двухмільённым горадзе, дзе пераважная бoльшасць жыхароў менавіта баларусы! Такое ж ( а часам яшчэ горшае ) становішча нават у заходніх гарадах рэспублікі. Напрыклад, у Гародні ў гэтым навучальным годзе толькі 120 вучняў першых класаў (пры іх агульнай колькасці 4799) займаліся па- беларуску. У 11-х класах гэтага горада з 2661 навучэнцаў на беларускай мове вучыліся ўсяго 22. Для параўнання: у Кіеве з 365 сярэдніх школ 347 — украінскамоўных.

Некалькі лепшае становішча ў вёсках. Але агульная тэндэнцыя пагражальнага наступу русіфікацыі ў беларускай адукацыі відавочная. Прычын таму шмат. Аднак самая галоўная з сучасных заключаецца ў выразнай абыякавасці ( а часта і варожасці ) у адносінах да тытульнай дзяржаўнай мовы нашай рэспублікі, гэта значыць да беларускай. Практычна не гучыць яна ні ў парламенце, ні з Вашых прэзідэнцкіх вуснаў ( а таксама з вуснаў кіраўніка ўрада ) ні ў адміністрацыях, ні ў міністэрствах і ведамствах. Ганебныя факты ігнаравання беларускай мовай з боку вярхоўнага кіраўніцтва рэспублікі, выцясненне з ужытку ставяць яе ў стан неперспектыўнай, непатрэбнай, адміраючай. Толькі такія дзеянні- злачынства сусветнага маштабу, якое вядзе да вынішчэння ў этнічных адносінах амаль што 12-мільённай беларускай супольнасці з яе Богам дадзенымі самабытнымі асаблівасцямі, да збяднення на адно важкае звяно непарыўнага ланцуга агульначалавечай еднасці. Бо мова — гэта не язык ( у расейскім эквіваленце — пэўны орган вышэйшых жывых істот ). І не сродак гукавых зносін паміж людзьмі. Яна — складанейшая дзейсная ўласцівасць душы чалавека, якая дадзена яму ад Бога для разумовага ўспрыяцця, зберажэння ў памяці і аналізу ўсяго навакольнага прыроднага і грамадскага асяроддзя. Кожная мова ( іх у свеце 2,5-5 тыс. — "Большой энциклопедический словарь", Москва- Санкт- Петербург, 1997 г., с. 1427 ) мае ў сукупнасці свае, толькі ёй уласцівыя асаблівасці таго ўспрыяцця. Напрыклад, беларуская найбольш наближана да сутнасці з'яў і працэсаў у прыродзе і чалавечым грамадстве. Так, напрамкі свету "поўнач і поўдзень" адпавядаюць ( па становішчы Сонца і месцы ў сутках ) палове дня і палове ночы. "Усход і захад" — усходу і заходу Сонца, пачатку і канцу дня. Тое ж можна і сказаць і пра назвы месяцаў ( студзень — студзёны, люты — злы і г.д.). Яна больш дабразычлівая, канкрэтная і карэктная. Бо, напрыклад, назваўшы чалавека членам ( па-расейску часцінкай калектыву ), яго можна зняважыць. Таму што гэтае слова ўвасабляецца з палавым органам у яго нялепшым прызначэнні. Беларускае ж "сябра" ўспрымаецца як дабрачынная часцінка. Наша "каханне" не з'ўляецца эквівалентам расейскай "любви" ( магчыма і да гарэлкі, гвалту, крадзяжу ). У беларускім успрыняцці яно — высокае пачуццё чалавечай душы. Пасля "калі ласка" расейскі ўсемагутны мат ужо проста не атрымаецца. Больш мяккімі, ласкавымі па гучанні з'яўляюцца "прыгажосць, зіхаценне, яскравасць, летуценне" у параўнанні з адпаведнымі расейскімі. Вымаўленне беларускіх слоў ( вядома не ў "Рэзанансе" і "Навінах") больш працяглае, з роздумам пры своеасаблівым спалучэнні моўных органаў ( надвор'е, адчуванне, спякота, знянацку і інш.)

Свая мова давалася кожнаму этнасу ( расава- роднаснай групе людзей, надзеленых асярэднена аднолькавымі прыроднымі самабытнасцямі на генным узроўні, пэўнымі рысамі абагульненага характару і ўласцівымі менавіта ёй асаблівасцямі ўспрыняцця з'яваў і працэсаў прыроды і грамадства ў адпаведнасці з яго асярэдненай сутнасцю). Мовы, як і этнасы, створаны Боскімі сіламі невыпадкова. А каб праз добразычлівае ўзаемадзеянне рознасцяў забяспечыць існаванне пастаянных умоў для безупыннага самаўдасканалення ўсяго чалавецтва на аснове прынцыпу: праз этнічна-нацыянальнае да агульначалавечага і наадварот. Таму Боскі наказ кожнаму этнасу — зберагаць і развіваць сабе, забяспечваць правы на тое ж іншым этнасам, а таксама нацыям як дзяржаўным аб'яднанням, узнікшым на аснове пэўнага карэннага этнасу і згуртаваным сумеснымі набыткамі культуры і прынцыпаў жыццядзейнасці. Чалавецтва можа паступова самавырадзіцца і згінуць, калі ўсіх людзей перамяшаць велізарнай бяздумнай лыжкай для пераўтварэння ў агульную масу накштал савецкага народа. Менавіта з гэтай нагоды ў кожнай цывілізаванай краіне ( у тым ліку і ў Францыі, Англіі, Германіі, ЗША ) дзейнічаюць дзяржаўныя камісіі з мэтай абароны сваёй карэннай мовы. З 1995 года і ў Расеі дзейнічае "Совет по русскому языку". Яго мэта "уберечь русский язык от тлетворного влияния Запада", хоць найбольшую пагрозу яму нясе непераможны рускі мат. У гэтым годзе там "вошла в бюджет ..... федеральная программа". У Беларусі нічога гэтага няма. На грамадскіх печатках, пры наўмысных перашкодах з боку ўладавых органаў ахвярна змагаецца за ўратаванне беларускай мовы практычна толькі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Яго сябрамі з'яўляюцца грамадзяне рэспублікі ( у тым ліку расейцы па этнічным паходжанні), якія добра разумеюць неабходнасць уратавання беларускай мовы. А для гэтага — патрэбнасць захаваць беларускі этнас ад асіміляцыі Расеяй, зберагчы самастойнасць беларускай дзяржаўнасці без паглынальных саюзаў з Расеяй, стварыць умовы для самастойнага ганарлівага ўваходжання ў агульначалавечую супольнасць. Сябрамі Таварыства з'яўляюцца не тыя людзі, якія "не могут делать ничего, кроме как разговаривать на белорусском языке, потому что по-белорусски нельзя выразить что-то большое". Яно аб'ядноўвае грамадзян Беларусі, якія добра ведаюць, што беларуская мова "не бедный язык", што яна не горшая ( а ў многіх адносінах ) лепшая за іншыя мовы. Таму, напрыклад, у сладзе Менскай гарадской рады Таварыства беларускай мовы 4 прафесары, дактары навук, 14 кандыдатаў навук, 6 настаўнікаў. Некаторыя з іх за самаадданую ахвярную працу пераследуюцца, іншы раз церпяць здзекі. Мэта такіх перашкод адна: зняважыць гэтых людзей, прымусіць іх пакінуць змаганне і дабіцца самароспуску нашай арганізацыі. Адзін з варыянтаў ціску на нас — пазбаўленне вельмі сціплай сядзібы на вуліцы Румянцава ў доме № 13. Таму Менскі абласны гаспадарчы суд вынес рашэнне: "Товарищество подлежит выселению из занимаемого помещения", а міліцыя хутка выканала яго. І гэта яшчэ не ўсё. Той жа суд у сваім рашэнні запісаў, што з нас "подлежит взысканию сумма 540798760 рублей" "в пользу ЖРЭО Партизанского района г. Минска" быццам за арэнду памяшкання. Суду добра вядова, што ў нас такіх грошай няма. І быць не можа, бо мы вытворчасцю не займаемся і не можам гэта рабіць.

Усё вышэйадзначанае прымушае нас звярнуцца да Вас па дапамогу. Мы просім Вас зразумець, што змаганне за захаванне беларускай мовы, зберажэнне беларускага этнасу і самастойнай беларускай дзяржаўнасці павінны стаць першаснай задачай прэзідэнта ( гэта значыць Вашай асабіста ) і ўрада нашай рэспублікі. Мы не хочам супрацьстаянняў. Нам не хочацца пікетаў з плакатамі "Прэзідэнт Лукашэнка — вораг беларускай мовы і беларускага этнасу, беларускай самастойнай дзяржаўнасці". Нам не хочацца, быць за гэта пабітымі міліцыяй ці кінутымі ў турму. Нам не хочацца каб усё гэта трансліравалася замежнымі сродкамі масавай інфармацыі. Нам хочацца, каб аб беларускім народзе думалі добра ва ўсім свеце. Таму мы просім сустрэчы з Вамі. Сустрэчы за любым круглым ці квадратным сталом. Сустрэчы шчырай, адкрытай для ўсяго беларускага і замежнага грамадства, бо нам не хочацца таксама, каб Ваша імя ўвайшло ў гісторыю як імя разбуральніка асноў беларускай дзяржавы, беларускага народа.

Прынята 22.06.1998 г.

З павагай

Старшыня Менскай гарадской рады Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны Аляксей Саламонаў, прафесар, доктар тэхнічных навук

## З імем Нарбута на тарчы

5-6 ліпеня ў Гародні прайшла ўстаноўчая краязнаўчая канферэнцыя. Спланаваная, як Гарадзенская абласная, яна ўжо ў ходзе падрыхтоўкі пачала выходзіць за рамкі абласной. Калі ж на канферэнцыю прыехалі краязнаўцы з 12 раёнаў Гарадзеншчыны, а таксама з Берасцейшчыны і Меншчыны, а пра сваю падтрымку яе заявілі прадстаўнікі Менска і Віцебшчыны, то стала зразумела, што будучая арганізацыя мусіць выступаць за межы вобласці. Асноўныя дыскусіі і разгарнуліся паміж Заходне-Беларускай і Ўсябеларускай канцэпцыяй пабудовы арганізацыі. У выніку двухдзённага "змагання" было ўтворана Беларускае краязнаўчае таварыства імя Тодара Нарбута. Абрана Рада Таварыства начале з прафесарам Майсеёнкам і Ўправа начале з прафесарам Габрусевічам.



Дактарант Акадэміі Навук Алесь Краўцэвіч зацверджаны старшынёй Рэдкалегіі будучага гісторыка-краязнаўчага часопіса.

## Ніхто не забыты



У ноч з 11 на 12 ліпеня ў Лідзе ў чацвёрты раз устаноўлены крыж на магіле ксендза Адама Фалькоўскага, героя паўстання 1863 года, расстралянага царскімі карнікамі ў Лідзе і тут жа пахаванага. Папярэднія тры крыжы зносіліся гарадскімі ўладамі з матывацыяй, што ў горадзе і так многа крыжоў. Справа ў тым, што магіла ксендза знайходзіцца ў гарадскім парку і ўлады ніяк не жадаюць зразумець, што хоць гэта і тэрыторыя збальшавізаванага горада, але права на надмагільны крыж не даецца мэрам. Гэта права ад Бога.

## "Ад лідскіх муроў"

Так называецца новы часопіс, які на мінулым тыдні з'явіўся ў Лідзе. Часопіс заяўлены, як літаратурна-мастацкі штоквартальнік. Фармат А-5. Аб'ём 64 старонкі. Аўтары часопіса -- лідскія паэты, празаікі, мастакі, кампазітары, фатографы.




## Два дні Лідскага ТБМ

7 ліпеня ў малой зале Лідскага гарадского дома культуры лідскімі арганізацыямі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны і Таварыства беларускай школы імя Браніслава Тарашкевіча былі наладжаныя літаратурныя чытанні, прысвечаныя 116-м угодкам беларускага песняра Янкі Купалы. У чытаннях прынялі ўдзел выхаванцы дзіцячых садкоў, якія сёлета пойдуць у першы клас, а таксама тыя дзеці, што першы клас сёлета закончылі. Удзельнікі чыталі вершы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Эдзі Агняцвет, мясцовых аўтараў: Пятра Макарэвіча і Юлі Барташэвіч. Зала з задавальненнем пляскала Дзіме Хадыку, Федзю Гарэламу, Каці Якуць, Віталю Мезіну, Вікторыі Цыронак, Людміле Пранюк ды іншым.

8 ліпеня гэтыя дзеці разам са старшынёй Лідскай гарадской рады ТБМ паехалі ў Гародню на экскурсію. Яны наведалі музей Максіма Багдановіча і Гарадзенскі заапарк. Фундатарамі гэтых мерапрыемстваў выступілі лідскія прадпрыемствы: АТ "Лакафарба", Лідскія электрасеткі, АТ "Харчканцэнтраты".

У гэты ж дзень, 8 ліпеня ў малой зале ГДК адбыўся канцэрт слыннага гарадзенскага барда Віктара Шалкевіча. Канцэрт арганізавалі ТБМ і Згуртаванне лідскай моладзі імя Гедыміна.

У гэты ж дзень у ГДК прайшла цалкам беларускамоўная і беларускамузычная дыскатэка наладжаная тымі ж ТБМ і гедымінаўцамі.

***Лілея Сазанавец.***

## Ахвяраванні сяброў ТБМ са Жлобіна

| | |
|---|---|
| 1. Сідарэнка Валеры | 100 тыс. руб. |
| 2. Здаравенка Віктар | 100 тыс. руб. |
| 3. Казерская Валянціна | 50 тыс. руб. |
| 4. Сідарэнка Мікалай | 50 тыс. руб. |
| 5. Віцебскі Аляксандр | 50 тыс. руб. |
| 6. Слівашчанка Сяргей | 50 тыс. руб. |
| 7. Борбут Юры | 50 тыс. руб. |
| 8. Надуеў Мікалай | 50 тыс. руб. |
| 9. Жлобінская філія БСДГ | 250 тыс. руб. |




№ 27(361) 15 ЛІПЕНЯ 1998 г. наша слова



## ВЫЙДЗЕМ З РЭЗЕРВАЦЫІ

Мы — насельнікі унікальнай краіны і унікальны народ. Няма, напэўна, больш нідзе такой краіны і такога народа, які выракся бы сваёй мовы. Толькі мы, беларусы, выракаемся. Цяжка ў гэта паверыць ды і не хочацца, але гэта факт. На вялікі жаль. Краіна наша носіць назву "Беларусь", карэннае насельніцтва — беларусы, а на якой мове мы размаўляем? На расейскай, на " трасянцы", беларускай мовы амаль што не чуваць. Чаму ? Можа, нашая мова непрыгожая ці цяжка на ёй словы вымаўляюцца? І прыгожая наша мова і вывучаць яе зусім няцяжка, нават таму, хто яе не ведаў з дзяцінства. Значна лягчэй, чым вывучыць якую-небудзь замежную мову. Але ж не вучым, не хочам вучыць. Аддаём дзяцей у расейскамоўныя класы, не чытаем беларускіх кніг, газет і часопісаў. Нават самыя з нас разумныя ведаюць больш расейскіх пісьменнікаў і паэтаў, чым сваіх. Неяк я вычытала ў інтэрвію аднаго нашага рэжысёра, што ў нас мала добрых беларускіх п'ес, таму менавіта ён больш любіць ставіць замежных аўтараў. Вялікі мяне сумнеў бярэ: а ці шмат п'ес на беларускай мове чытаў той рэжысёр?

Цяжка патрабаваць таго, каб да роднай мовы павярнулася насельніцтва, так званы "электарат", калі значная частка нашай інтэлігенцыі да сваёй мовы адносяцца, як да "дзеравеншчыны". Маўляў, адукаваны чалавек павінен добра валодаць расейскай мовай. Пажадана, каб адукаваны чалавек валодаў, як мага большай колькасцю моваў. Але ў першую чаргу ён павінен дасканала валодаць роднай. З асабістага досведу ведаю, што гэтага ў нас якраз і няма. У дзяржаўных установах, у школах, у вышэйшых навучальных установах - паўсюль гучыць мова расейская. Нават выкладчыкі беларускай мовы і літаратуры на беларускай мове, звычайна, размаўляюць толькі на ўроках. З усіх маіх знаёмых настаўніц на беларускай мове, прынамсі са мною, размаўляе толькі адна. Гэта значыць, што беларуская мова ўсё больш і больш набывае статус замежнай. Ды што там замежнай! У многіх школах на вывучаньне ангельскай мовы адводзіцца значна больш гадзінаў, чым на вывучаньне сваёй роднай. Ніхто, напэўна, не стане спрачацца, што школьныя праграмы піша не прыбіральшчыца, а менавіта прадстаўнік інтэлігенцыі. Мова выкараняецца, на жаль, на дзяржаўным узроўні. Хто не ведае цэлую дэтэктыўную эпапею з нацыянальным гуманітарным ліцэем? Дзеці, замест таго каб адпачываць летам і набірацца здароўя, якога ў нашых дзяцей і так бракуе, вымушаныя стаяць у пікетах і ўжо не першы год запар. Праўда, дзяржава нібыта пайшла ім насустрач, але ці надоўга? У Таварыства Беларускай Мовы адабралі штаб-кватэру. Не разлічыліся з дзяржавай , маўляў. А рахунак ім быў пастаўлены, як якім бізнесоўцам, якія не ведаюць, куды грошы дзяваць.

Газета "Наша Ніва" не гэтак даўно атрымала папярэджанне (ужо трэцяе): выкарыстоўвае правапіс, які не прадугледжаны на сённяшні дзень законам. Мяккі знак, у якога нават няма загалоўнай формы, ледзь не дыверсантам аб'яўлены. Між тым, беларуская мова і адрозніваецца ад астатніх тым, што на ёй як гаворыцца, гэтак і пішацца. Ці чуў хто, каб беларус (той, хто па-беларуску гаворыць з дзяцінства) казаў "есці"? Ён кажа "есьці". Не ведаю, каму гэтак замінае гэтая літара, я лічу, што менавіта яна надае нашай мове мілагучнасць і адмысловасьць. Але гэта маё асабістае меркаванне. Зараз патрэбна ратаваць не толькі гэтую адну літару, трэба ратаваць усе астатнія. Як гэта рабіць? Калі кожны настаўнік беларускай мовы зможа і галоўнае, захоча давесці сваім вучням, што беларуская мова — адна з самых прыгожых у свеце, калі ў кожнай бібліятэцы без цяжкасцяў можна будзе знайсці і "Крыніцу", і "Маладосьць", і "Нашу Ніву", і "Наша слова", і творы ўсіх аўтараў, якія пішуць па-беларуску, калі нашае чынавенства загаворыць нарэшце на сваёй роднай мове — мова нашая, я вельмі на гэта спадзяюся, выйдзе нарэшце з рэзервацыі. І электарат на ёй зага-ворыць, куды ён дзенецца!

*Лілея Сазанавец,*
*г. Ліда*

## Адрадзілася раённая арганізацыя ТБМ у Горках.

26 чэрвеня 1998 года да сяброў ТБМ у Горкі на Магілёўшчыну завіталі вядомы беларускі пісьменнік Уладзімір Арлоў, намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Спадчына" Вінцук Вячорка і аўтар гэтых радкоў.

Адбыліся сустрэчы з супрацоўнікамі Горацкай раённай бібліятэкі, гісторыка-этнаграфічнага музея, а таксама з сябрамі ТБМ у аўдыторыі імя М.Гарэцкага ў адным з карпусоў Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі.

Пад час сустрэч і абмена думкамі высветлілася наступная сітуацыя. Музей і бібліятэка не выпісалі газеты "Наша слова", бо ім дазваляецца выпісваць толькі "Советскую Белорусию" і "Беларускую думку". Такім чынам беларускамоўнай прэсе тут уваход амаль забаронены, бо выпісаць газеты іншага зместу можна толькі за свой кошт.

У кіёсках "Белсаюздруку" газеты "Наша слова" ляжаць на відным месцы, але яе ніхто не ведае і не купляе. Так у кіёск галоўнага корпуса сельгасакадэміі прыходзяць 5 асобнікаў "НС". За тры месяцы ніводзін нумар не куплены і іх спісалі. І гэта ў той час калі на кафедры беларускай мовы і літаратуры працуе 28 чалавек ! Супрацоўнікі гэтай кафедры падрыхтавалі шмат галіновых беларуска-расейскіх слоўнікаў па тэматыцы акадэміі, але апошнім часам іх не друкуюць, а патрабуюць метадычныя матэрыялы выпускаць толькі па-расейску. Аднак і ў Горках ёсць выкладчыкі, што працягваюць выкладаць у акадэміі свае прадметы на роднай мове, а група студэнтаў, не зважаючы на пераслед выпусцілі два нумары студэнскай газеты "Акадэмічная пуня" па-беларуску. Прапагандуюць беларускае слова раённая бібліятэка і музей. Выкладчыкі кафедры беларускай мовы выказалі падзяку кіраўніцтву ТБМ за змаганне за беларускую мову ў нашых ВНУ. Нядаўна гэтую кафедру збіраліся зачыніць, і беларускую мову ў Акадэміі не выкладаць навогул. Аднак пасля правядзення апошняй Рады ТБМ прысвечанай беларускай мове ў ВНУ у Горкі прыйшоў загад міністра адукацыі В. Стражава, аб выкладанні беларускай мовы ў межах 60 гадзін.

Таксама было прыемна даведацца, што кніжкі У. Арлова не залежваюцца на паліцах бібліятэкі, іх ведаюць і актыўна чытаюць. Есць у Горках і падпіскі на часопіс "Спадчына".

На сустрэчу з намі прыйшло шмат студэнтаў Акадэміі, 12 чалавек з іх напісалі заявы і ўступілі ў шэрагі ТБМ пад час сходу.

Новым кіраўніком раённай арганізацыі аднагалосна абрана супрацоўнік музея Святлана Кротава, якая мае цесную сувязь з гарадскімі і раённымі школамі, а яе намеснікам Уладзімір Шчур, выкладчык Акадэміі, які чытае па-беларуску студэнтам філасофію і сацыялогію. Людзі актыўна набывалі апошнюю кніжку У.Арлова "Божая кароўка зь пятай авеню" і апошні нумар газеты "Наша слова".

Цікавыя прыгоды здарыліся з намі пад час вяртання. Калі мы прыехалі на Аршанскі вакзал, цягнік на Менск ужо адыходзіў і набыць білеты мы не паспелі. Аднак брыгадзір цягніка даведаўшыся, што мы з ТБМ давёз нас да дому бясплатна, назваўшы нашую паездку з гумарам "гуманітарным рэйсам". Застаецца спадзявацца, што ў Горках беларуская справа не загіне.

**Алег Трусаў, першы намеснік старшыні ТБМ.**

## ДЗВЕ ТЭНДЭНЦЫІ ДЛЯ ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ: БАРАНІЦЦА ДЗЕЛЯ ЎРАТАВАННЯ САМОЙ МОВЫ, АБО БЕЗВЫНІКОВА ПРЫСТАСОЎВАЦЦА І, МАГЧЫМА, ЦІХА СКАНАЦЬ РАЗАМ З ЁЮ.



Гэтыя тэндэнцыі нідзе афіцыйна не акрэслены. Але яны рэальна існуюць. Іх выразнасць можна адчуць, калі ўважліва прааналізаваць дзве раней надрукаваныя у "Нашым слове" ( № 24 і25 )пастановы: Менскай гарадской і Рэспубліканскай радаў ТБМ. Першая распрацоўвалася камісіяй, поўнасцю зачытвалася перад прысутнымі на рэспубліканскай радзе і заклапочана прымалася Менскай гарадской радай, у складзе якой 4 прафесары і дактары навук, 14 кандыдатаў навук і 6 школьных настаўнікаў. У ёй выразна агучваецца зневажальнае становішча беларускай мовы ў нашым грамадстве і пагаршэнне яе рэйтынгу ў ВНУ, выказваюцца канкрэтна нялёгкія, але неабходныя для здзяйснення прапановы, рэалізацыя б якіх дазволіла беларускай мове заняць неабходнае месца ў практычнай дзейнасці ВНУ, а праз іх — ва ўсім беларускім грамадстве. Другая ў надрукаваным выразе нідзе не прадстаўлялася, не зацвярджалася і невядома як з'явілася, не мае подпісу адказнага за яе, хоць і накіравана ў ВНУ. Яе ўступны тэкст звонкава гучны, аднак звернуты невядома да якіх "чыноўнікаў". У якасці прапаноў узятае тое, чым адмоўна не засвяціўся перад прэзідэнтам і ягоным атачэннем. Яны не рызыкоўныя для стваральніка. Бо ці ўжо гучалі раней, ці здзейснены, ці мінімальныя, ці нават — крок назад у параўнанні з існуючым. Так, напрыклад, у цывілізаваных краінах свету (і ў тым ліку — у Расеі) усе ВНУ з'яўляюцца нацыянальнымі ва ўсіх адносінах. Смая ж першая прапанова разглядаемай пастановы скіравана даць статус нацыянальнай толькі адной з 57 ВНУ Беларусі . Адносна п.2 можна сказаць, што "цягнік ужо прайшоў". Таму што ў адпаведнасці з просьбай Менскай гарадской рады ТБМ ад 26.04.1998 г. загадам міністра адукацыі № 243 ад 29.04.1998 г. "курс беларускай мовы ў аб'ёме 60 г. і курс гісторыі Беларусі ў аб'ёме 90 г. уключаны ў пералік сацыяльна-гуманітарных дысцыплін, абавязковых для вывучэння студэнтамі ВНУ рознага профілю". Прапанова " прадугледзець выкладанне хаця б адной дысцыпліны па-беларуску" незразумелая, хоць бы таму што беларуская мова ўсюды выкладаецца толькі па-беларуску. У большасці ВНУ рэспублікі на беларускай мове чытаецца і гісторыя Беларусі. Таксама не зусім зразумелая прапанова аб стварэнні "студэнцкіх плыняў з беларускай мовай навучання" у дадзеных умовах можа толькі нашкодзіць. І не столькі па прычыне фінансавых складанасцяў. А таму што на беларускамоўнае навучанне трэба паступова пераводзіць усе дысцыпліны, як гэта робіцца, напрыклад, у БДТУ.

"Забяспечыць выкананне дзяржаўнай праграмы "Беларускі падручнік" для ВНУ" немагчыма. Бо такая праграма проста не існуе. Да таго ж ніхто не забараняе ВНУ выдаваць не толькі падручнікі, але і ўсю навучальную літаратуру на беларускай мове, у чым можна пераканацца на прыкладзе зноў жа БДТУ.

Практычна ніхто не пярэчыць "вывучэнню беларускай мовы выкладчыкамі ВНУ". Справа тут у іншым: вярхоўныя ўлады рэспублікі робяць усё магчымае, каб беларуская мова была зусім непатрэбнай на ўзроўні ўсяго грамадства.

Прапанова пад нумарам 12 проста спазнілася (выпадкова ці наўмысна). Бо (як паведаміў начальнік упраўлення ВНУ Міністэрства адукацыі, ліст № 29-04-256 ад 20.05.1998 г.) "пытанне стану беларускамоўнага выкладання ў ВНУ" будзе разглядацца "адным з пытанняў Калегіі Міністэрства адукацыі ў канцы чэрвеня 1998 г.".

Безсэсоўна "даручаць сакратарыяту ТБМ распрацаваць зварот да ВНУ наконт пашырэння ўжывання беларускай мовы". Бо гэта рабілася ўжо за апошнія тры месяцы тройчы. Дадатковы зварот можа выклікаць адмоўную рэакцыю.

Адной з наступных першасных задач ТБМ павінна быць не "пытанне аб выкарыстанні беларускай мовы ў дашкольных дзіцячых установах". Бо праз садкі не так ужо многае можна зрабіць у разглядаңай найскладанейшай справе. Таму лепш заняцца дзяржаўнымі ўстановамі кіравання і вытворчасцці а таксама "нацыянальнай" акадэміяй навук, каб яна павярнулася тварам да ўсяго сапраўды нацыянальна-беларускага.

***Аляксей Саламонаў, старшыня Менскай гарадской рады ТБМ імя Францішка Скарыны, прафесар, 18.06.1998г.***

## У Канадзе дбаюць пра беларусаў

Час ідзе хутка. Вось і мінула ўжо дванаццаць год пасля таго, як здарылася найвялікшая катастрофа дваццатага стагоддзя — аварыя на Чарнобыльскай атамнай станцыі. Я асабіста ніколі не змагу памыліцца ў адлічванні ўгодкаў гэтай катастрофы, бо колькі будзе гэтых угодкаў, столькі гадоў будзе майму старэйшаму сыну. Дзеці найбольш пакутуюць ад наступстваў аварыі. Разуменне гэтага з цяжкасцю даецца нашым уладам, між тым прадстаўнікі замежжа і хочуць дапамагчы і дапамагаюць ахвярам. Нашыя суайчыньнікі раскіданыя па ўсім свеце. Ім неабыякавы лёс беларусаў, якія апынуліся ў бядзе. У жніўні 1990 года спадар Барыс Рагуля, прэзідэнт Лёнданскай медычнай акадэміі (Канада) звярнуўся да спадарыні Івонкі Сурвілы (сп.Сурвіла зараз з'яўляецца Прэзідэнтам Рады БНР) дзеля таго, каб распрацаваць план дапамогі ахвярам Чарнобыльскай аварыі. Было вырашана даць магчымасць беларускім дзецям адпачываць у Канадзе. Спадарыня Сурвіла ўзяла на сябе арганізацыйны бок гэтай акцыі, а спадар Рагуля стаў медычным дырэктарам Канадскага фонду дапамогі ахвярам Чарнобыля. Гэты фонд атрымаў статус харытатыўнай арганізацыі, гэта значыць, што ахвярадаўцы не абкладаюцца дзяржаўным падаткам. Беларуская дыяспара ў Канадзе і канадыйскае грамадства вельмі прыхільна аднеслася да ўтварэння такога фонду. Першая група дзяцей змагла наведаць Канаду ўжо ў ліпені і верасні 91-га года. Ад тога часу адпачылі ў Канадзе дзесці каля 2000 беларускіх дзяцей. Кошты ўтрымання бяруць на сябе канадыйскія сем'і, а кошт падарожжа (каля 1200 кан. даляраў) прадстаўнікі фонду збіраюць сярод грамадства. Такая акцыя прыносіць вялікую карысць нашым беларускім дзецям. Па-першае, дзеці маюць магчымасць хоць на непрацяглы час пажыць у чыстым асяродку, паправіць сваё здароўе. Па-другое, яны могуць параўноўваць узровень жыцця ў нашай краіне і ў вольным свеце.

Фонд запрашае нашых лекараў-дантыстаў у Канаду дзеля таго, каб пазнаёміць іх з Канадскай мадэрновай тэхнікай. Фонд займаецца таксама высылкай медыкаментаў, але на сёння вымушаны гэтую акцыю спыніць, бо ўрад Рэспублікі Беларусь налажыў вялікія падаткі на гуманітарную дапамогу. Гэты факт лічыцца нечуваным у заходнім культурным свеце.

Не зважаючы на цяжкасці з падатковымі стасункамі, фонд працягвае займацца медычнай дапамогай для Беларусі. У траўні гэтага года Менск наведалі лекары-кардыёлагі з Канады пад кіраўніцтвам доктара Рууда.

**Матэрыял падрыхтаваны Лілеяй Сазанавец з дазволу доктара Барыса Рагулі.**
**17 траўня 1998 г., г.Ліда.**

*P.S. Спадар Рагуля сталы чытач газеты "Наша слова" і актыўны прапагандыст беларускай мовы, за што мы ўдзячны яму не менш, чым за гуманітарную дапамогу.*

# "... У мяне шчаслівы пісьменніцкі лёс"

Так сказаў аб сабе Леў Эмануілавіч Разгон. Імя гэтага пісьменніка добра вядома ва ўсім свеце. Яго кніга "Непридуманное", дзе ён апавядае аб 17 гадах, праведзеных у лагерах Гулага, выдавалася ў Расеі і амаль на ўсіх еўрапейскіх мовах. Напісаў ён і яшчэ шмат цікавых кніг.

Пісьменнік наш зямляк. Ён нарадзіўся ў Горках дзевяноста год назад — 1 красавіка 1908года ў сям'і яўрэйскага рамесніка, які працаваў у невялічкай парфумнай майстэрні К. Падзерскага, што вырабляла славуты на ўвесь свет крэм "Казимиметамарфоза". Цікава, што гэты крэм у 1900 годзе атрымаў залаты медаль на Парыжскай сусветнай выставе. Зараз захаваўся дом, дзе працавала гэта майстэрня. Гэта будынак аддзела міліцыі Горацкага райвыканкама.

Да 1915 года, а затым з 1918 па 1923 год сям'я Разгонаў жыла ў Горках, дзе ён скончыў шэсць класаў сямігодкі другой ступені . Дарэчы, аб жыцці ў Горках Леў Разгон вельмі цікава апавядаў у кнізе ўспамінаў "Позавчера и сегодня", што выйшла з друку ў 1995 годзе.

У гэтай кнізе цікавы лёс. Пісьменнік напісаў яе без усякай надзеі на друкаванне, калі быў у турэмным лагеры, дзеля сваёй дачкі Наташы. Аднак рукапіс згубіўся. Аб гэтым ён апавядаў праз 35 год у часопісе "Юность", дзе друкаваліся яго ўспаміны "Непридуманное". І вось удача. Аб гэтым прачыталі людзі, што знайшлі рукапіс і захоўвалі яго ў сям'і. Яны патэлефанавалі Льву Разгону, калі ён прыехаў па ўказанаму адрасу, дзверы адчыніла жанчына, якая трымала ў руках сшытак. "Я заплакал . . .", — успамінае аўтар (Л.Разгон. Позавчера и сегодня. М.,1995.С.9).

Знайшоўшы рукапіс, пісьменнік вырашыў надрукаваць свае ўспаміны асобнай кнігай. А калі яны выйшлі, даслаў іх у Горкі. Зараз кніга знаходзіцца ў архіве музея. На ёй даравальны надпіс: "Горецкаму историко-этнографическому музею на добрую память от одного из тех, кто родился и провел детство в этом городе. Л.Разгон. 3.XI.95г.".

У гэтай кнізе вельмі цікавыя гістарычныя і этнаграфічныя падрабязнасці аб Горках у дарэвалюцыйны і даваенны часы.

З асаблівай цікавасцю чытаюцца главы кнігі, дзе апавядаецца пра яго славутых сваякоў. Гэта С.Э.Разгон, родны брат пісьменніка доктар гістарычных навук, прафесар, лаурэат Дзяржаўнай прэміі СССР, Э.І.Шапіра, стрыечны брат, палкоўнік у адстаўцы, узнагароджаны ў гады Вялікай Айчыннай вайны ордэнам Суворава ІІІ ступені № 1, І.І.Разгон, георгіеўскі кавалер у час Першай сусветнай вайны, актыўны ўдзельнік грамадзянскай вайны, намеснік камандуючага Чарнаморскага і Балтыйскага флатоў, начальнік упраўлення узбраення Народнага Камісарыята Ваенна-Марскога флоту СССР і іншых.

У 1923 годзе сям'я Разгонаў пераехала ў Маскву. Там Леў скончыў школу другой ступені. Потым працаваў важатым у першым маскоўскім Доме піянераў, дапамагаў у ліквідацыі беспрытульніцтва. Яшчэ ў час навучання ў Горках Леў зацікавіўся літаратурай, з вялікім задавальненнем пісаў школьныя сачыненні. І нават стварыў школьны рукапісны часопіс "Вестник знания". "Таким образом, — успамінае Л.Разгон у кнізе "Позавчера и сегодня", — я уже в невинном отроческом возрасте ( было мне двенадцать-тринадцать) проявил недюжинные способности к публицистике и понимание методов журналистской деятельности" (Лев Разгон. Позавчера и сегодня. М., 1995, С.155).

У Маскве ён таксама пісаў артыкулы ў "Комсомольскую правду" асобныя брашуры па праблемах выхавання і адначасова вучыўся на гістарычным факультэце 2-га Маскоўскага дзяржаўнага універсітэта (зараз Маскоўскі педагагічны універсітэт).

Затым ён рэдагуе кнігі ў выдавецтвах "Молодая гвардия" і "Детгиз". У сваёй аўтабіяграфіі ён пісаў: "Это были интереснейшие годы становления и развития советской детской литературы. Молода была литература, молоды были и все ее авторы и редакторы". (Разгон Л. Повести. М.,1978.С.6).

Аднак Леў не толькі рэдагуе, ён і сам спрабуе свае сілы ў літаратуры.

У канцы трыццатых гадоў ён ажаніўся на дачцы Г.І.Бокія — начальніка 9-га ўпраўлення НКУС. Таго самага ўпраўлення, якое кіравала архепелагам "Гулаг". На некаторы час Леў Разгон увайшоў у кола калякрамлёўскай эліты. У кнізе "Непридуманное" ён успамінае, што ў гэты час меў магчымасць быць на запрашальнаму білету на пасяджэннях XYII партыйнага з'езда РКП(б). Ён быў знаёмы з вядомымі партыйнымі дзеячамі А.І.Рыкавым, І.М.Масквіным, В.В.Асінскім і нават з сумнавядомым М.І.Яжовым.

Але наступіў крывавы 1937 год. Спачатку арыштавалі цесця (яго расстралялі 15 лістапада 1937 года). Потым чарга дашла да зяця і дачкі Аксаны, якая пасля допытаў і пытак на Лубянцы была адпраўлена ў пешы этап на Поўнач і памерла на перасыльцы. Родным удалося выратаваць іх маленькую дачку Наташу.

Праз 50 год нашаму земляку давялося бараніць гонар сваёй жонкі, калі Б.В. Сокалаў, доктар філалагічных навук у кнізе "Энциклопедия Булгаковская" напісаў, што Г.І.Бокі завёў на сваёй дачы бардэль, куды ўцягнуў і сваіх юных дачок.

Разгон прыехаў у інстытут сусветнай літаратуры Акадэміі навук Расеі, сустрэўся з аўтарам хлусні і пасля кароткай размовы двойчы ўдарыў яго па твары. Аб гэтым выпадку у артыкуле "Вызов на дуэль" надрукаваным у газеце "Известия", апавядаў Б.Жутоўскі. "Да, он сделал это, — пісаў аўтар артыкула, --показав, что честь мертвых и живых, его, моя, наша, имеет цену и что пренебрегать этим не следует никогда". ("Известия", 1998г, 9 снежня ).

Пасля арышту Леў Разгон доўгія гады правёў у лагерах "Гулаг", а калі пасля вайны быў вызвалены, то разам з другой жонкай Рыкай Берг, з якой лёс звёў у адным з перасыльных лагераў, быў адпраўлены у Стаўрапаль. Там ён працаваў у метадычным кабінеце ўпраўлення культпрасветпрацы.

Аднак ужо ў 1949 годзе адправілі ў ссылку жонку, дачку вядомага рэвалюцыянера, а летам 1950 года арыштавалі і яго. Следчыя падвялі звычайны артыкул — "антысавецкая агітацыя". Знайшліся і сведкі. Л.Разгон успамінае, што адзін з іх паказаў: "Об антисоветской деятельности арестованного мне известно, что однажды, в разговоре со мной, он хвалил музыку композитора Рубинштейна ..." (Лев Разгон. Непридуманное.С.237).

А адным з галоўных пунктаў абвінавачвання ў яго справе было "хлусня на кіраўнікоў партыі". Гэта адбылося калі ў друкарні выдавалі выставу "Сталінскі план пераўтварэння прыроды" і не атрымліваўся якасны партрэт Сталіна. І тады Л.-Разгон сказаў, што "такая петрушка получилась потому, что клише слишком подпилили ...". Сведкі ж паказалі, што ён правадыра назваў "Пятрушкай".

За гэтую "антысаветчыну" наш зямляк атрымаў дзесяць год лагераў і пяць год паражэння ў правах.

Пасля абвяшчэння прыгавору Л.Разгон спытаў матэрыялы яго справы і паперу, каб напісаць касацыйную скаргу. І калі яму адмовілі аб'явіў галадоўку. Ён не прымаў ежы і вады некалькі дзён, яго насільна кармілі і перавялі ў турэмную бальніцу. І ён перамог. Аднак Вярхоўны Суд пакінуў прыгавор без змянення.

Зноў пацягнуліся лагерныя гады . . . І вось 5 сакавіка 1953 года памёр Сталін. У інтэрвію "Общество забывает, что был 37-ий год", надрукаваным у газеце "Известия" да яго 90-годдзя Л.Разгон сказаў: " . . . я держался сознанием того, что если переживу Сталина, то останусь цел, и что я живу в соревновании с ним. И вот это соревнование я 45 лет назад выиграл. С тех пор 5 марта я никогда не бываю трезв. Это мой праздник" ("Известия", 1998, 1 апреля).

Аднак прайшлі яшчэ два доўгія годы зняволення і, нарэшце, ён на волі. Гэта адбылося ў 1955 годзе.

З таго часу Леў Разгон актыўна працуе ў літаратуры. Ён аўтар манаграфіі аб Н.Дубаве, У.Яне, аповесцяў "Шестая станция" і "Один год и вся жизнь". Апошнюю кнігу пісьменнік таксама даслаў у Горацкі гісторыка-этнаграфічны музей з даравальным надпісам: "Дорогим землякам — жителям моего родного города от Л.Разгона. 10.03.1987г.

Вельмі цікавай атрымалася яго кніга "Живой голос нации" (М.,1986), дзе ён апавядае пра вядомых навукоўцаў папулярызатараў навукі. Л.Разгон аўтар яшчэ многіх кніг і артыкулаў.

І.Мацяшоў, аналізуючы творчасць Льва Разгона пісаў: "В каком бы жанре он ни выступал — писатель одной темы. В двух словах её можно определить так: знание и гуманизм ... в понятии "знание". Разгон включает всю драму человеческой истории с медленным, но упрямым приближением к научной, технической, социальной истине. А "Гуманизм" характеризует моральную сторону цели и средств этого движения". (Разгон Лев. Повести. Шестая станция. Один год и вся жизнь. М., 1978.С.6-7).

У 1975 годзе у час усесаюзнай нарады пісьменнікаў у Менску, Леў Разгон прыехаў у родныя Горкі, дзе не быў 53 гады. І акрамя тэрыторыі акадэміі не пазнаў горад. Бо гэта былі ужо не тыя Горкі, якія ён ведаў.

Аднак, пісьменнік не забываў свой родны горад. І калі даведаўся аб стварэнні ў Горках гісторыка-этнаграфічнага музея, то дасылаў у яго свае кнігі, фотаздымак і ўнікальны экспанат — першы нумар газеты "Луч Интернационала", якая пачала выходзіць у Горацкім павеце ў 1919 годзе, а таксама ўлётку, што была выдадзена ў Горках да смерці У.І.Леніна.

Дэмакратызацыя і звязаная з ёй галоснасць далі магчымасць Льву Разгону пачаць друкаваць свае ўспаміны аб гадах, праведзеных у засценках "Гулага". Ён пісаў больш дваццаці год без усялякай надзеі на тое, што будзе магчымасць іх надрукаваць. І вось такі час наступіў... Аб гэтым Леў Разгон марыў усё жыццё. У прыгаданым намі інтэрвію ў газеце "Известия" ён казаў: " . . . в самые крутые моменты я был убежден, что если выживу — я им всё напомню, всё расскажу".

І ён расказаў, апавядаючы пра людзей, з якімі звёў яго лёс у лагерах: аб партыйных і савецкіх дзеячах, сярод іх была жонка М.І. Калініна — Кацярына Міхайлаўна (нарыс "Жена президента"), аб ваеначальніках і палкаводцах Чырвонай Арміі, сярод іх быў М.В.Лісоўскі, прафесійны вайсковец, які быў намеснікам начальніка Генеральнага штаба Чырвонай Арміі (нарыс "Военные"). Дарэчы М.В.Лісоўскі, як піша Л.Разгон, быў непахісна ўпэўнены ў непазбежнасці вайны з Германіяй і прадказаў ваенныя няўдачы ў першы перыяд вайны, а вясной 1942 года, успамінае Разгон, ён "... с почти обсолютной точностью начертил мне направление будущего удара немецких армий на юг - юго - восток ... Было что-то чудовищное в том, что высокопрофессионный работник, всю жизнь готовившийся к войне, сидит, .." (Лев Разгон. Непридуманное.С.57.).

Асобны нарыс у кнізе прысвечаны турэмшчыкам, сярод якіх былі розныя людзі, у тым ліку і "рабаўладальнікі". Менавіта дзякуючы ім у лагеры загінулі мільёны нашых суайчыннікаў.

У кнізе "Непридуманное" шмат яшчэ чаго цікавага і павучальнага. Але аб гэтым не раскажаш. Трэба прачытаць гэтую кнігу.

Да таго ж у кнізе і шмат цяпла, святла і дабрыні. Як адзначыў пісьменнік А.Ваксберг: "... вырвавшись с ада ... он нашёл в себе силы написать много добрых и умных книг, с которых самая долгая жизнь уготована несомненно его "непридуманным рассказам", напрочь лишенным, к счастью, озлобления, ненависти и мести". (Ваксберг А. "Литературная газета", 1991, 20 июня). Прывядзём выказванне яшчэ аднаго пісьменніка — Даніїла Даніна. Ён лічыць, што яна " ... обогащает наши представления о советском обществе эпохи сталинского всевластия."

Все, что в ней написано, — без малейшего исключения! — идет в копилку исторической памяти народа. О немногих книгах можно, не обинуясь, высказать такое суждение ... " (Лев Разгон. Непридуманное.С.4). Пісьменнік і зараз займаецца ўвекавечаннем памяці загінуўшых у "Гулагу". Ён сябар расейскага таварыства "Мемориал", якое надрукавала некалькі зборнікаў дакументаў, прысвечаных рэпрэсіям, а таксама дзве кнігі спісаў растраляных у Маскве.

А яшчэ наш зямляк сябар камісіі па памілаванні пры прэзідэнце Расеі, які нядаўна ўручыў яму высокую дзяржаўную ўзнагароду.

Пажадаем яму доўгіх год жыцця, здароўя і новых цікавых кніг.

Можа , нарэшце, яго кнігі будуць надрукаваны і на яго Радзіме — у Беларусі.

***У.Ліўшыц, дырэктар Горацкага гісторыка-этнаграфічнага музея.***

# Запрашэнне на спатканне

Канікулы ў школах як пачаліся, так і скончацца. Неяк гадоў пару таму назад школкі з вёсак прывозілі дзяцей і ў Музей Максіма Багдановіча ў Гародні. Цяпер іх усё меней. Дзеткі пакруцяцца на "чортавых колах" у парку, сходзяць да таго здзічэлага слоніка Сурыка ў заапарк, — і якія прыехалі ў горад, такія назад з яго вяртаюцца... Калі не сказаць горай.

А побач з паркам у Гародні па вуліцы Багдановіча — 1 Мая ў драўляным доміку знаходзіцца сціплы, але вельмі прыгожы музей Максіма Багдановіча, нашага лепшага Паэта, Паэта еўрапейскай славы. Тут Максім бегаў маленькім. Тут ён сядзеў цэлы дзень на крэсле, забыты ўсімі, калі памірала яго прыгожая маладая маці. Асірацеў. Стаў дарослым у няпоўныя пяць гадочкаў.

Бацька спакаваў клункі, узяў дзяцей — ды паехаў на чужыну, далей ад гора, ад свежай магілы тае, якую так моцна кахаў і так хутка, нечакана страціў. Гэта было ў 1896 годзе ў лістападзе.

Максім жыў у Ніжнім Ноўгарадзе, пасля ў Яраслаўлі.

Там ён вучыўся, скончыў гімназію, Дзямідаўскі юрыдычны ліцэй. Беларусь заставалася ў яго светлых дзіцячых успамінах чыстаю, утульнай "краінай—браначкай", прыгожай казкай. Ён мроіў аб яе цяпле і



пяшчоце і стаў Паэтам. Толькі ў 1911 годзе яму дазволілі прыехаць на Радзіму на два месяцы. У гасцях доўга не бываюць. Ён наведаў Вільню, пазнаёміўся з тымі, з кім ліставаўся. Яго завезлі ў Ракуцёўшчыну, дзе апекаваліся ім з любоўю і павагай, як вялікім Паэтам ! Ён адплаціў за гэта вершамі і паэмамі, шчодрым плёнам Ракуцёўскага лета.

Ізноў чужына. Вучоба ў ліцэі. Хвароба. У кастрычніку 1916 года прыехаў у Менск, сам знайшоў сабе працу па прафесіі — у губернскай земскай управе сакратаром харчовага камітэту. Вясной паехаў у Ялту, дзе і памёр 25 траўня 1917 года на 26 годзе жыцця. У Гародні ён болей не бываў. Але гэты горад адчуваецца ў яго мініятурных вершах. Гарадзенскія дворыкі, вулкі і гарыстасць зрабілі ўплыў на еўрапейскую паэзію Максіма. На жаль, мы не былі ў тым Яраслаўлі. Таму не ведаем, як выглядае яго гарадскі пейзаж. Але гарадзенскія дахі вельмі добра ілюструюць радкі Максіма Багдановіча, гарадзенскія ліпы, ліхтары, ганкі і шынкі. Гарадскія вершы Максім пісаў і да паездкі ў Вільню. У яго мініятурках ціхі тутэйшы горад, места. Горад, дзе так і не паставілі яму помнік.

Але ў горадзе Гародні ёсць Музей — Дом нашага вялікага Паэта, дзе знаходзяцца яго кнігі, дакументы яго жыцця, фатаграфіі яго і яго іных братоў, бацькоў і продкаў, дзе вітае "на крылах, цішэй ад вецярка ў паветры мяккім пекным" яго неўміручая Душа. Тут ёсць адрэстаўраваная кватэра сям'і Максімавай, пакоік з дзіцячымі рэчамі, цацкамі. У маленькім гаршочку растуць кіпарысы, пасаджаныя з зернейка з яго магілы ў Ялце — ён у нас уваскрашоны ў дрэўцы.

Мы запрашаем чытачоў "Нашага слова" ў Музей Максіма Багдановіча.

Прыязджайце з Ліды, Іўя, Шчучына і Ваўкавыска і з усіх куткоў Беларусі на спатканне з Паэтам ! У нашым Музеі шырока прадстаўлена гісторыя беларускай літаратуры канца XIX — пачатку XX стагоддзяў, а таксама гісторыя літаратуры Гарадзеншчыны.

Адрас Музея 230023, Гародня, вул. 1 Мая, 10. Побач з паркам. тэл. 72-22-54 .





Беларуская дыяспара ў Эстоніі

# ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ ІДА-ВІРУМАА " БЭЗ "

Згуртаванне беларускай культуры "БЭЗ" у Іда-Вірумаа заснавана ў сакавіку 1989 года. Іда-Вірумаа знаходзіцца ў паўночна-усходняй Эстоніі, дзе этнічных эстонцаў усяго каля 20%. Астатняе насельніцтва рэгіёна складаюць расейцы, беларусы, фіны, палякі, украінцы, габрэі, татары ды іншыя, амаль 100 розных нацыяў ... Узначальвае Згуртаванне беларускай культуры "БЭЗ" спадарыня Маргарыта Астравумава — беларуска па маці, дырэктарка мастацкай школы ў горадзе Іыхві, дзе, дарэчы, месціцца офіс згуртавання, праводзяцца шматлікія мерапрыемствы "бэзаўцаў". Заўважу, што першым старшынёй згуртавання быў вядомы ўжо сярод беларускай дыяспары далёкага і блізкага замежжа паэт Уладзімір Дзехцярук, кніга якога пад назовам "Сярод белых эстонскіх начэй" выйшла ў Таліне па-беларуску ў 1995 годзе і стала набыткам беларускай замежнай літаратуры поруч з кнігамі славутых беларускіх паэтаў Мацея Сяднёва, Наталлі Арсенневай ды іншых ... У 1994 годзе Уладзімір перадаў пасаду старшыні згуртавання спадарыні Маргарыце Астравумавай, з якою мяне лёс звёў пад час работы Першага з'езду беларусаў свету ў ліпені 1993 года ў сталіцы Беларусі Менску, які ладзіла для нас, беларусаў далёкага і блізкага замежжа, Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына", ачалёная на той час спадаром Яўгенам Лецкам. Потым былі курсы беларускай мовы і літаратуры ў Менскім дзяржаўным педагагічным універсітэце. Другі з'езд ,еларусаў свету. А паміж гэтымі падзеямі ў нашым жыцці было ліставанне, з якога спадарыня Маргарыта зрабіла выснову, што я хачу пабываць у Эстоніі, на свае вочы убачыць, як жывуць "бэзаўцы", пра якіх так шмат пісала беларуская прэса, у прыватнасці газета для суайчыннікаў за межамі Бацькаўшчыны "Голас Радзімы" ... І вось пасля афармлення эстонскай візы ў Эстонскім консуляце ў Кіеве, набыцця квіткоў на цягнікі да Санкт-Пецярбурга і далей на Іыхві, я па запрашэнню "БЭЗ" а 13-га чэрвеня а 5-ай гадзіны раніцы выйшаў з чацвёртага вагона цягніка "Санкт-Пецярбург-Талін" на перон чыгуначнага вакзала ў Іыхві, дзе мяне сустракала старшыня Згуртавання беларускай культуры Іда-Вірумаа спадарыня Маргарыта Астравумава ...

. . . На наступны дзень у мастацкай школе Іыхві адбылася сяброўская вечарына "БЭЗ" а з маім удзелам. Скажу шчыра, што я быў крануты да слёз той цеплынёй і сардэчнасцю, з якімі тут мяне прымалі спадарыня Маргарыта і яе сябры па Згуртаванню: яна запомніцца мне на ўсё жыццё !!!

. . . Сустрэча пачалася з прывітальнага слова старшыні Згуртавання, да таго ж на цудоўнай беларускай мове, хаця спадарыня Маргарыта пакінула Віцебшчыну 36 гадоў таму назад. А потым было слова ўдзячнасці ў адказ аўтара гэтых радкоў, прывітанні іншых "бэзаўцаў", якія ўпершыню ўбачылі мяне на ўласныя вочы, хаця ведалі завочна па маіх шматлікіх артыкулах у "Голасе Радзімы", "Нашым слове", іншых беларускамоўных выданнях Беларусі. Было шмат песень, жартаў, і не верылася тут, у Эстоніі, што недзе там, на маёй другой Радзіме — Украіне, зараз нашым браткам - беларусам (як, дарэчы, і украінцам, расейцам, палякам ды іншым жыхарам краіны) не да жартаў ды песень: ідзе штодзённае змаганне з галечай, беспрацоўем, сапраўдная барацьба за выжыванне ...

Тут жа, у гэтай ўтульнай зале, на сценах якой скрозь вісяць карціны мастакоў, я бачыў на тварах тутэйшых беларусаў непадддзельную цікавасць не толькі да маёй асобы, але і да ўсяго таго, што я апавядаў пра жыццё беларусаў на Украіне, дзе пражывае каля паўмільёна этнічных беларусаў ...

... Больш трох гадзін доўжылася гэтая незабыўная сустрэча, пад час якой я спазнаў новых беларусаў, даведаўся шмат цікавага з іх жыцця ў Эстоніі, паслухаў у іх цудоўным выкананні шмат беларускіх народных песень. Спявалі мы і песні ўкраінскага спевака і кампазітара Івасюка, які трагічна загінуў у росквіце сваіх гадоў ад рук супраціўнікаў незалежнасці Украіны: сёлета споўнілася роўна 20 гадоў з дня трагедыі: светлую памяць аўтара "Чырвонай руты", "Чарамшыны", "Вадаграю" мы памянулі хвілінай маўчання, а потым спявалі ягоныя песні па-украінску: украінская мова не чужая нам, беларусам! ..

. . . Безумоўна, каб атрымаць больш поўную інфармацыю пра дзейнасць Згуртавання беларусаў Іда-Вірумаа, я папрасіў спадарыню Маргарыту Астравумаву адказаць на некалькі маіх пытанняў. Нашу размову прапаную вашай, шаноўнае спадарства, увазе:

— Спадарыня Маргарыта, якія ж асноўныя задачы (мэты) у Згуртавання беларускай культуры Іда-Вірумаа "БЭЗ", старшынёю якога Вы маеце гонар быць?

— Калі адказваць на Вашае, спадар Пятрусь, пытаннее вельмі коратка, то яны наступныя: Аднаўленне страчаных беларускіх каранёў, развіццё нацыянальнай культуры, інтэграцыя ў эстонскае грамадства .

— Як жа стваралася Ваша Згуртаванне, і чаму менавіта яно названа "БЭЗ"ам?

— У апошнія гады так званай гарбачоўскай "перабудовы", калі Эстонія выйшла са складу СССР і стала незалежнай дзяржавай, на фоне барацьбы эстонцаў за сваю нацыянальную самабытнасць, і у нас , беларусаў, якія пражываюць сярод свабодалюбівых эстонцаў, узнікла жаданне "людзьмі звацца", вылучыцца з шэрага натоўпу расейскамоўных", што не памятаюць уласных каранёў, на аснове уласнай беларускай культуры аднавіць амаль што страчаныя нацыянальныя карані. Пошук аднадумцаў не быў доўгім, — у нашым рэгіёне пражывае каля 7 тысячаў этнічных беларусаў! І вось у сакавіку 1989 года да чарговай гадавіны БНР стварылася Кохтла-Ярвескае згуртаванне беларускай культуры, якое з цягам часу перарасло ў аб'яднанне беларусаў Іда-Вірумаа і назвалася "БЭЗ"ам (Беларуска - Эстонскім Згуртаваннем). Чаму "БЭЗ" ? Гэта не толькі тры першыя літары згуртавання, але і куст бэз, які вясною пакрываецца прыгожымі суквеццямі. Дык вось кожная гронка на кусце бэзу — гэта суполка беларусаў у Кохтла-Ярве, Іыхві, Сомпа,Ківіылі, Ору, Сіламяэ, а разам мы — "БЭЗ" ...



"БЭЗ"-аўцы на сцэне

— Я ведаю, што ў Эстоніі створаны шэраг беларускіх суполак. У адным толькі Таліне іх мо з пяць! Чым жа ўсе-такі ваш "БЭЗ" адрозніваецца ад іх, непадобны на іх ў сваёй працы?

— Па-першае , мы дзейнічаем на тэрыторыі паўночна-усходняй Эстоніі, дзе вялікая "праслойка" беларусаў, таму наша згуртаванне пастаянна імкнецца зрабіць нешта цікавае для іх у плане культуры, уплываць на адраджэнне нацыянальнай свядомасці, і у першую чаргу, гістарычнай памяці. Мы ладзім імпрэзы не толькі ў Іыхві, Кохтла-Ярве ці Сіламяэ, але выязджаем з канцэртамі ў іншыя гарады і вёскі Іда-Вірумаа, дзе пражываюць кампактна беларусы. Асабліва цікавымі , на мой погляд, бываюць нашыя вечарыны, прысвечаныя калядам, чарговым гадавінам утварэння БНР 25 сакавіка, шэраг іншых. Мы не імкнёмся "выдзяляцца" сярод іншых беларускіх суполак культуры ў Эстоніі, а проста спакойна робім сваю справу. Дарэчы, на нашых канцэртах бывае шмат прадстаўнікоў і іншых народаў: эстонцаў, фінаў, палякаў, украінцаў, татараў, з суполкамі якіх мы сябруем ...

— У наступным годзе вашаму Згуртаванню споўніцца 10 гадоў — маленькі, але ўсё ж юбілей. Ці не маглі б Вы коратка пералічыць найбольш удалыя мерапрыемствы "БЭЗ"у ?

— Мерапрыемстваў за 9 гадоў было так шмат, што сёння цяжка вось так адразу пра ўсе і згадаць. Мы наладзілі сяброўскія сувязі з беларускімі культурнымі суполкамі ў іншых краінах Прыбалтыкі, Санкт-Пецярбургу. Удзельнічаем ва ўсіх імпрэзах замежных беларусаў, дзе б яны ні ладзіліся. У літоўскім Вісагінасе наш фальклёрны ансамбль паспяхова выступіў на свяце беларускай песні. У сваёй сядзібе ў памяшканні мастацкай школы ў Іыхві наладжваем мастацкія выставы беларускіх мастакоў, у тым ліку і з Беларусі: вось і зараз вы, спадар Пятрусь, маеце магчымасць палюбавацца карцінамі гомельскіх мастакоў аб'яднання "МЭЯ" (Святлана Курашова, Уладзімір Андрэянаў, Ларыса Зуева). Наш фальклорны ансамбль у пастаянным творчым пошуку, шукаючы і развучваючы усё новыя беларускія народныя песні, якія потым з радасцю і натхненнем дорыць сваім удзячным слухачам. Запрашаем мы і да сябе творчыя калектывы з Бацькаўшчыны: апошнімі ў нас гасцілі артысты гурта "Тутэйшая шляхта". У сваю чаргу імкнемся ў Беларусі прапагандаваць эстонскую культуру: з вялікім поспехам у Гомелі прайшлі канцэрты моладзевага хору з горада Пюсі, наладжаныя "БЭЗ"ам і нашымі гомельскімі сябрамі. "БЭЗ" на відавоку мясцовай прэсы: "Паўночнае ўзбярэжжа" часцяком знаёміць сваіх чытачоў з усім, што адбываецца ў нашым Згуртаванні ...

— Так, у гарадской бібліятэцы я пагартаў падшыўку згаданай Вамі, спадарыня Маргарыта, газеты "Паўночнае Ўзбярэжжа", якая выдаецца на эстонскай і расейскай мовах, і быў прыемна ўражаны той колькасцю і якасцю артыкулаў пра "БЭЗ" ! І ўсё ж задам Вам апошняе, традыцыйнае, у такіх выпадках пытанне: на чым жа трымаецца "БЭЗ" ?

— На моцнай веры у патрэбнасць і запатрабавальнасць таго, што мы робім! У Згуртаванні склалася моцнае ядро актывістаў, якіх хочацца назваць: гэта Уладзімір Дзехцярук, Зінаіда Клыга, Тамара Пашкоўская, Тамара Галкоўская з дочкамі Святланай ды Ларысай, яе муж Мікола, Надзея Гаўрылава, Ганна Корка, Ліда Глімакова, Янка Дрозд, Мікола Юрэня, Ларыса Маўко, Крысціна Старова, Вера Аляксандрава, Вера Фёдарава з дачкою Аленай, Валянціна Белякова, Сцяпан Разанка, — сёння ў спісах болей за 100 асобаў, а на імпрэзы прыходзіць болей за 200 !...

... Такі вось ён "БЭЗ" (Беларуска-Эстонскае Згуртаванне) ў паўночна-ўсходняй Эстоніі, краіны, дзе карэнны народ шануе не толькі сваю самабытную і непаўторную мову эстонскую, але дае магчымасць іншым народам краіны захоўваць сваю мову, культуру. Так і павінна быць у дэмакратычным грамадстве, такім яго я тут і пабачыў на свае ўласныя вочы ..

***Пятрусь Капчык,***
***філолаг, г. Іыхві, Эстонія.***
***20.06.98г.***

# АПОВЕСЦЬ ПРА СЛОВЫ

## Ліса Патрыкееўна

Асаблівасцю як беларускіх, так і агульнаславянскіх казак, былінаў, паданняў з'яўляецца тая акалічнасць, што большасць персанажаў гэтых твораў мела рэальных прататыпаў. Старажытны казачнік фантазаваў, даваў розныя падрабязнасці, прыпісваў учынкі, але, як правіла, калі апавядаў пра нейкага князя, то гэты князь існаваў, хай не ў той час, не ў тым горадзе, але існаваў, калі казаў пра нейкую падзею, то яна таксама хай не так, не тады і не там, але мела месца.

Так мелі рэальных прататыпаў князь кіеўскі Уладзімір Чырвонае Сонейка — зборны вобраз Уладзміра Святаслававіча і Уладзіміра Манамаха. Рэальным чалавекам быў Дабрыня Нікіціч, брат Малушы, дзядзька Уладзіміра. Пад былінным Волхавам Усяславічам хаваецца Усяслаў Брачыслававіч Полацкі. Тугарын Змеевіч - рэальны палавецкі хан Тугарын.

Рэальна гістарычныя рысы мелі і Змей Гарыныч і Баба Яга. Салідныя і шаноўныя казачныя персоны, як правіла, называюцца не толькі па імені, а маюць і імя па бацьку: Міхайла Іваныч, Катафей Іваныч, Пявун Курыханыч, Ліса Патрыкееўна. Не будзем доўга разбірацца, чаму Міхайла Іваныч, а не Сцяпаныч. Іванычаў было больш. Імя было папулярнае. Певень, як і хан мае свой гарэм, толькі курыны, то і стаў Курыханычам. Гарыныч атрымаў сваё бацькоўскае ці то ад "гора", ці то ад слова "гарыць", ці ад рэчкі Гарынь, з-за якей быццам бы прылятаў. А вось Ліса чамусьці стала Патрыкееўнай. Імя Патрыкей даволі рэдкае. І мабыць, мусіў гэты Патрыкей мець не малыя хітрасці і не малыя заслугі ў гісторыі каб зацвердзіцца ў імені лісы, смага хітрага і асцярожнага , і мудрага звера. І павінен быў гэты Пятрыкей быць рэальнай гістарычнай асобай, бо як ужо казалася старажытны казачнік лгаў толькі праўду.

І сапраўды быў у нашай гісторыі такі чалавек. Імя яго Патрыкей Нарымунтавіч, літоўскі князь, наш што ні на ёсць сапраўдны зямляк. Дзед яго -- Вялікі князь Гедымін бацька — князь пінскі і тураўскі Нарымунт. Маці — татарская ханша. Сам ён — князь на прыгарадах наўгародскіх, у канцы жыцця — князь рыльскі і старадубскі.

У 1383 годзе, калі ў Вялікім княстве Літоўскім пачалася міжусобная замятня паміж Альгердавічамі і Кейстутавічамі, Патрыкей ад граху падалей з'ехаў у Ноўгарад Вялікі, дзе атрымаў "у кармленне" прыгарад Арэхаў, Карэльскі горад, палову Капор'я і Лузскае сяло. Чым і як ён задобрыў наўгародцаў засталося таямніцай, але воласць атрымаў не малую. Карміўся Патрыкей на наўгародскіх прыгарадах без асаблівай сціпласці, дзёр з наўгародскіх васалаў па тры шкуры. Але, мабыць, трохі перабраў, бо праз год арэхаўцы і караляне прыехалі ў Ноўгарад са скаргай на князя Патрыкея. Але і Патрыкей не лыкам шыты. Ён таксама з'явіўся ў Ноўгарад і абяцаннямі ды добрымі пачастункамі падняў за сябе Славенскі канец і ўзбударажыў увесь Ноўгарад. Слаўляне сталі за князя Патрыкея: Нараўскі, Загародскі і Людзін канцы — супраць, а Плотніцкі спачатку падтрымаў прэтэнзіі арэхаўцаў і каралян, але Патрыкей добрымі пачастункамі схіліў яго на свой бок. Тры тыдні жыццё горада было паралізавана, наўгародцы стаялі на вечы, званілі ў званы і сыходзіліся канец на канец, пакуль не ўладзіліся ўсе пяць канцоў і не забралі ў Патрыкея абадраныя ім гарадкі, і не далі яму новыя і багатыя Русу, Ладагу ды Нароўскі бераг. І Петрыкей, як тая Ліса, пачаў гаспадарыць у новых курніках.

Князь Патрыкей ухіліўся ад усіх бітваў 80-90 гадоў 14-га стагоддзя. Не хадзіў на Куліковае поле і адгаварыў наўгародцаў ісці туды. А калі ў 1386 годзе Зміцер Данскі з'явіўся з войскам, сабраным з 29 воласцяў, каб узяць з Ноўгарада вялікакняскую пошліну і пакараць за ўхіленне ад Кулікоўскай бітвы, Патрыкей аказаўся тут, як тут. Ён спачатку адгаварыў наўгародцаў ад вайны са Зміцерам. Потым атрымаў ад Зміцера даручэнне на збор гэтай самай пошліны. Сабраў яе з наўгародцаў зпаўна, але да Зміцера дайшла ці палова. З усёй заварухі выйшаў лепшым сябрам і наўгародцаў, і Зміцера і з немалымі грашыма.

Патрыкей само сабой не ўдзельнічаў ні ў адной выправе войскаў Вялікага княства Літоўскага, але, калі ўбачыў, што Вялікі князь Вітаўт умацаваўся, з'явіўся да таго, як найпершы прыхільнік і сябар ды выпрасіў"на беднасць сваю"гарады Старадуб і Рыльск.

Сыны Патрыкея аказаліся сапраўднымі Патрыкеевічамі — Аляксандр Патрыкеевіч у 1403 годзе выдаў замуж сваю дачку Аграфену за Андрэя Змітравіча, брата Вялікага князя маскоўскага Васіля І, а Юры Патрыкеевіч ажаніўся на другой дачцэ Васіля І княжне Марыі і, паступіўшы на службу да маскоўскага князя адцясніў ("заехаў") усіх баяр маскоўскіх, заняў вышэйшае месца сярод іх: вадзіў у паходы маскоўскія палкі, ездзіў вялікім паслом у Ноўгарад, абараняў Маскву ў 1439 годзе ад нашэсьця Улу — Мехмета.

Ад сыноў Патрыкея Нарымунтавіча бяруць пачатак буйнейшыя расейскія княскія роды: Трубяцкіх, Галіцыных, Куракіных, Хаванскіх, Шчаняцевых.

Усе гэтыя Патрыкеевічы былі вартыя, свайго шматхітрага прашчура і імя Патрыкеевіча не магло мінуць такую хітрунню, як ліса. Адзін толькі раз Патрыкеевічы абмішуліліся, калі ў пачатку 16 стагоддзя далучыліся да змовы супраць Івана Васілевіча ІІІ, але і тут, калі ўсе змоўшчыкі паклалі галовы на пласе, Патрыкеевічы абышліся высылкай і стратай маёмасці. Пасля смерці Івана ІІІ яны паспяхова вярнуліся самі і вярнулі ўсё сваё дабро.

Сёння адзін з Патрыкеевічаў, князь, Трубяцкі жыве ў Парыжы і, як кажуць, няблага ўладкаваўся.

Каго толькі Беларусь не давала свету. Наце вам і Лісу Патрыкееўну ...

***Валеры Сліўкін***
***Станіслаў Суднік***

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:***
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:***
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231300, г. Ліда-2, п/с 7.

***Рэдакцыйная рада:***
Генадзь Бураўкін — старшыня,
Людміла Дзіцэвіч, Сяргей Запрудскі,
Аляксей Пяткевіч, Аляксей Рагуля,
Аляксей Саламонаў, Павел Сцяцко,
Алег Трусаў, Эрнэст Ялугін.

***Аўтары нясуць поўную адказнасць за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі.***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі і друку Гродзенскага аблвыканкама.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Кошт па дамове.Газета падпісана да друку 13. 07. 98 г.
Наклад 3000 асобнікаў. Замова № 1674.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 12 000 руб., 3 мес.- 36 000 руб.